***Складваецца ўражанне, што рэжым альбо паставіў мэтай знішчыць беларускую культуру, альбо людзі, чымі рукамі гэта робіцца, не разумеюць усёй трагічнасці сітуацыі. Але трэба выстаяць, мы мусім выстаяць.***

1. ЗАТРЫМАННІ, ПРЫСУДЫ, ПЕРАСЛЕД
2. ЦІСК, ЗВАЛЬНЕННІ, ЗАБАРОНЫ
3. СІМВОЛІКА
4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ
5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ
6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ЗАТРЫМАННІ, ПРЫСУДЫ, ПЕРАСЛЕД



**Іван Вярбіцкі, мультыплікатар з Гальшан, атрымаў 8 гадоў і 1 месяц калоніі за «тролінгавыя» паведамленні ў Telegram, расцэненыя як падбухторванне да актаў тэрарызму.**



**17 сакавіка адбыўся допыт Аляксандра Памідорава ў Дэпартаменце фінансавых расследаванняў у якасці сведкі па крымінальнай справе супраць BY_Help.**







**Ян Роман, журналіст і паэт, затрыманы ў Гродна 17 сакавіка. Яго вінавацяць у фінансаванні пратэстаў (ён аплаціў штрафы дваіх чалавек, пакараных за ўдзел у акцыях). Дома ў Яна адбыўсяператрус: забралі ноўтбук і тэлефон.**



**Агляд кватэры Алеся Дзянісава, журналіста і музыкі, лідара гурта DZIECIUKI, прайшоў у Гродна 17 сакавіка. Яму таксама закідаюць фінансаванне пратэстаў. Міліцыянты канфіскавалі ноўтбук і смартфон дачкі, а таксама хатні кампутар і тры старыя мабільныя тэлефоны. 18 сакавіка Алеся выклікалі на допыт у Аддзел па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі.**





**Вадзіма Дзмітранка**, архітэктара, пакаралі трыма гадамі «хіміі». Яго адпусцілі з-пад варты ў залі суда пад падпіску аб нявыездзе і належных паводзінах на час абскарджання прысуду.



**У Змітра Афанасенкі**, вакаліста гурта Amaroka, 17 сакавіка адбыўся ператрус. Зміцер супрацоўнічаў з «Арт-сядзібай», таксама яго затрымлівалі падчас мінскіх маршаў увосень 2020 года.





**Дзмітрыя Сачыўку**, канцэртнага фатографа і музыку, асудзілі на 30 сутак арышту за ўдзел у Масленіцы.



**Змітра Казакевіча**, журналіста, аштрафавалі на 1740 рублёў за два артыкулы, якія ён напісаў. У судзе Зміцер працытаваў урывак з рамана-антыўтопіі Джорджа Оруэла «1984» і спрабаваў падарыць суддзі асобнік кнігі ў перакладзе на беларускую.



Фота: БАЖ (Courtesy Photo)



**Андрэя Палуду**, праваабаронцу, 19 сакавіка выклікалі ў Следчы камітэт на <u>допыт</u> у межах крымінальнай справы, заведзенай паводле часткі 2 артыкула 342 Крымінальнага кодэкса – навучанне ці іншая падрыхтоўка асоб для ўдзелу ў групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак.
Андрэй Палуда – адзін з аўтараў <u>нон-фікшн кнігі</u> «Смяротнае пакаранне ў Беларусі» (2015 год), разам з Адар'яй Гуштын і Палінай Сцепаненкай.





**Ігару Банцару**, які з 3 сакавіка трымаў сухую галадоўку, 19 сакавіка прысудзілі 1,5 года «хіміі». На час апеляцыі ён <u>адпушчаны</u> на свабоду.





**Язэп Палубятка**, беларускі грамадска-культурны дзеяч, журналіст і пісьменнік з Мастоў, выкліканы на <u>допыт</u> у міліцыю 22 сакавіка.



**Таццяну Загорац** 19 сакавіка <u>аштрафавалі</u> на 870 рублёў за вокліч “Жыве Беларусь!”, які, як сцвярджае сведка-міліцыянт, яна выгукала са свайго акна 7 сакавіка, хаця жанчына тады нават не знаходзілася дома.



Гродненскіх праваабаронцаў, сярод якіх пісьменнікі **Віктар Сазонаў** і **Уладзімір Хільмановіч**, 20 сакавіка <u>выклікалі</u> ў Следчы камітэт у межах крымінальнай справы супраць ПЦ «Вясна».



# 2. ЦІСК, ЗВАЛЬНЕННІ, ЗАБАРОНЫ

ОТМЕНА ФЕСТИВАЛЯ
И ПОЛНОЕ ЗАКРЫТИЕ
МАФ

**Арганізатары фестываля Moving Art Festival вымушаныя былі адмяніць фэст  і закрываюць пляцоўку, таму што не могуць трапіць у памяшканне, якое арэндуюць у завода «Гарызонт».**



**10 сакавіка пракуратура распачала крымінальную справу па «факце гераізацыі ваенных злачынцаў» на падставе таго, што нібыта ў адной з польскіх дзіцячых арганізацый мела месца ўсхваленне антысавецкіх партызанаў. Адразу ў некалькіх гарадах пачаліся праверкі дзейнасці ў польскіх грамадскіх арганізацыях.  Кантроль ажыццяўляюць прадстаўнікі ўсіх магчымых дзяржаўных служб: ад пракуратуры да санстанцыі. Правяраючыя спрабуюць дазнацца, ці адзначаюць дзеці, якія наведваюць «Польскую школу», польскія нацыянальныя святы і ўвогуле навошта яны вучаць мову продкаў.**
**Пракуратура Брэста падала пазоў аб ліквідацыі «Польскай школы».**

Фота: tut.by



**Андрэй Пятроўскі, настаўнік са Смаргоні, быў звольнены за тое, што на ўроку расказаў вучням пра бел-чырвона-белы сцяг (сын чыноўніцы запісаў усё на тэлефон).**
**18 сакавіка да яго ў кватэру прыйшлі сілавікі, з санкцыі пракурора быў праведзены агляд, канфіскаваныя старэнькі ноўтбук, планшэт, флэшкі і яго смартфон.**

Фота газеты «Светлы шлях»

**Спектакль «Кадзіш» пра трагічны лёс габрэяў у часе Другой сусветнай вайны, які мусіў прайсці ў Гродна 20 сакавіка, быў забаронены пад пагрозай крымінальнай адказнасці арганізатарам. Прычынамі для забароны стала тое, што «ў спектаклі «Кадзіш» асуджаецца фашызм», кажацца пра канцлагеры і трагічны лёс габрэяў, а менавіта з фашыстамі частка беларускага грамадства асацыюе сённяшнюю ўладу».**



# 3. СІМВОЛІКА



**Дзмітрыя Ліпіева 15 сакавіка затрымлівалі ва ўласнай кватэры шасцёра невядомых у масках са зброяй. Падставай стаў бчб сцяг у вакне, які насамрэч ляжаў у шафе. Падчас затрымання іператрусу супрацоўнікі спрабавалі высветліць, ці з'яўляецца Дзмітрый адміністратарам тэлеграм-каналаў. 17 сакавіка Дзмітрыя, пасля двух сутак на Акрэсціна, асудзілі на 30 дзён адміністратыўнага арышту.**

**Гэты прыклад у чарговы раз ілюструе жорсткасць і неправамернасць рэпрэсій і неабароненасць грамадзян у Беларусі. Больш за тое, зафіксаваныя іншыя выпадкі, калі грамадзян каралі за сцягі, якія не віселі ў вокнах.**



**Ульяну Гарбачову, былую работніцу МТЗ, якую звольнілі за ўдзел у забастоўцы, 18 сакавіка затрымалі, калі яна гуляла з сынам і сабакам. На яе склалі пратакол за абрад «Гуканне вясны» (якое святкавалі ў лесе, Ульяна была ў чырвонай сукенцы і белым шаліку, з чырвоным палатном у руках) і, пакараўшы штрафам у 50 базавых, вечарам адпусцілі.**

# 4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ

**Сучасны мастацкі тэатр (СХТ)** паказаў спектакль «Дракон» у анлайнавым фармаце 18 сакавіка.
Усе сабраныя падчас паказу сродкі будуць перададзеныя на новую пастаноўку «Былы сын» паводле рамана **Сашы Філіпенкі**.







«Словы мацней»:
**Кецеван Асраташвілі**, спявачка, акторка, настаўніца, каб выказаць салідарнасць і падтрымаць рэпрэсаваных дзеячоў і дзеячак культуры, чытае верш **паэта Ігната Дварчаніна**, расстралянага ў 1937 годзе.

**Артысты Перамогі** – LIVE 20 сакавіка:
Вераніка Круглова (KRIWI)
& Валерыя Дэле (Dee Tree).




Мінчук **Fromm Savoque** напісаў песню «Я выходжу» для натхнення беларусам і памяці Рамана Бандарэнкі.






**Лілія Квацабая**
**«Ідэальны мікрафон па версіі гурта «Галасы ЗМеста»**



**Savichz**
**«Дапаможам прагнаць махляроў з гораду»**

# 5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



Courtesy photo

**Сяргей Гапон – фатограф «Франс Прэс», які жыве ў Крэве і актыўна развівае мястэчка: ладзіць выставы і сустрэчы, аднаўляе старыя могілкі. 15 верасня супраць яго была распачатая адміністратыўная справа за святкаванне Масленіцы.**

***«Я шчыра люблю Крэва. Гэта для мяне не нейкая ноўнэйм-вёска. Гэта мая радзіма, я бачу вялікі патэнцыял у Крэве. У Фэйсбуку ў каментах мне нехта напісаў – давай, чакаем у Літве цябе. Але я нікуды не хачу з'язджаць. У мяне тут распачата шмат праектаў, працы вышэй галавы, і яе трэба рабіць».***

**Аксана Машынкова, рэжысёрка, пра адмену спектакля «Кадзіш»:**

***"Калі я як акторка не магу казаць з дапамогай мастацкага слова, то мне наогул не зразумела, пра што я магу з ім размаўляць. Ці магу я, ці мне можна? Маё мастацкае слова абмяжоўваюць, і я чамусьці ператвараюся ў злачынцу. Можа варта выкласці рэестр, пра што можна размаўляць, пра што не?"***





**Вадзім Дзмітранок, архітэктар, які пасля чатырох месяцаў за кратамі выйшаў на волю перад «хіміяй», пра зняволенне.**

***«"Сядзець" дапамагаюць кнігі. На «Валадарцы» лепшая бібліятэка: і кніг больш, і ў добрым стане.***
***У Жодзіне зашмат старых, жоўтая зацёртая папера, чытаць было цяжка, тым больш з маімі пашкоджанымі пасля затрымання вачамі. Пра сукамернікаў персанальна не буду гаварыць, каб ім не адгукнулася, але скажу, што сустрэў шмат разумных і таленавітых людзей. І асабліва захапляюся маладымі. Ашаламляльныя, яны дакладна не здадуцца».***

# 6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ



**17 сакавіка ў межах Міжнароднага фестывалю паэзіі і перакладу ў Атланце адбылася паэтычная імпрэза, падчас якой беларускія паэты і паэткі Дзмітрый Строцаў, Юлія Цімафеева, Марыя Мартысевіч і Уладзімір Лянкевіч прачыталі свае пераклады вершаў амерыканскіх калег – Vievee Francis, Hanif Abdurraqib, Travis Denton і Mario Chard. І, адпаведна, наадварот.**

**Дзесяць акцёраў Гродзенскага драматычнага тэатра, якія былі звольненыя за ўдзел у агульнанацыянальнай забастоўцы, пераехалі ў Літву, дзе возьмуць удзел у супольных міжнародных праектах.**





**Беларускія паэт і паэтка Дзмітрый Строцаў і Ганна Комар атрымалі Прэмію за свабоду слова ад Нарвежскага саюза пісьменнікаў.**

**У Сусветны дзень паэзіі 21 сакавіка ладзіўся глабальны паэтычны анлайн-фестываль Poesia 21. Беларусь на фестывалі прадставілі тры паэткі: Юлія Цімафеева, Таццяна Скарынкіна і Марыя Маліноўская.**

POE21A

WORLD POETRY DAY 21.03.2021




**З нагоды Сусветнага дня паэзіі Міжнародны ПЭН адзначыў дзвюх паэтак і двух паэтаў, якія сёння знаходзяцца ў небяспецы праз сваю дзейнасць, сярод іх – беларуска Марыя Мартысевіч. У сваёй заяве PEN International выказаў салідарнасць з культурнымі дзеячамі Беларусі і заклікаў беларускія ўлады неадкладна спыніць рэпрэсіі ў дачыненні да іх.**

